**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 47 (763) 20 лістапада 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

**Канец лістапада. Апошнія дні восені.**



Фота Ул. Скрабатуна.



**Падача абвестак па тэлефоне**
**№ 166**

## Аршанскі раён

# Стралком аказаўся няўмелым

■ Чэслаў Якубовіч.

**Апошнім часам пачасціліся паведамленні аб вымушаным прымяненні зброі супрацоўнікамі міліцыі пры затрыманні розных зламысьнікаў.**

У сводцы такіх крымінальных здарэнняў зноў “адзначыўся” Аршанскі раён, дзе ў кастрычніку быў застрэлены ў горадзе сямейны дэбашыр з нажом. Праз некалькі тыдняў падзеі там разгортваліся яшчэ больш трывожныя. Вечарам у адзін з магазінаў сістэмы Беларускай чыгункі зайшоў малады хлопец у масцы і запатрабаваў аддаць яму выручку. Калі прадаўцы адмовіліся гэта зрабіць, рабаўнік стрэліў з пісталета тройчы і раніў адну з іх. Злачынца забраў, праўда, толькі каля 300 тысяч рублёў і скрыўся ў цемры. Яму пашчасціла, што гэта гандлёвая кропка не была абсталявана трывожнай кнопкай. Праз некаторы час прыехала міліцыя, у бальніцу з раненнем бядра даставілі пацярпелую, дзе медыкі аказалі жанчыне неабходную дапамогу. Надзеі налётчыка схавацца і з’ехаць адсюль на электрычцы не спраўдзіліся, хоць ён змог дабрацца да чыгуначнай станцыі Хараброва. Аднак ужо дзейнічаў аператыўны план “Сірэна”, па трывозе быў падняты ўвесь асабовы склад гарнізона. Міліцыянеры заўважылі незнаёмага нібыта чыгуначніка ў фірменнай куртцы, папрасілі яго прад’явіць дакументы. І тут нервы ў злачынцы, 25-гадовага ўраджэнца з прыгараду сталіцы не вытрывалі. Ён дастаў зноў пісталет, некалькі разоў стрэліў, але не патрапіў па людзях у пагонах. Пазней пасля затрымання высветлілася, што пайсці на мокрую справу ён рыхтаваўся загадзя. З сабой нават меў бронекамізельку, карту Оршы, дзве адзінкі зброі і нават самаробную выбухоўку, а галоўнае ведаў, што чыгуначныя крамы тэхнічна слаба ўмацаваныя для аховы.

## Пастаўскі раён

# Балючы крок – звальненне

■ Кастусь Александровіч

**На фоне пачатай у краіне кампаніі па выяўленні непрацуючых лайдакоў яшчэ больш сумна становіцца тым людзям, хто не па сваёй волі аказваецца ў няпростай жыццёвай сітуацыі.**

Вось і ў Пастаўскім раёне сёлета стала расці беспрацоўе, а ў лістападзе спынілі сваю дзейнасць яшчэ два працоўныя калектывы. У гарпасёлак Лынтупы прыехалі прадстаўнікі дырэкцыі Віцебскага лікёра-гарэлачнага завода “Прыдзвінне” і паведамілі аб закрыцці свайго філіяла, спіртзавода з больш чым стогадовай гісторыяй. Летась там адбыўся выбух, пасля чаго больш 80 чалавек страцілі працу. Цяпер звольнілі яшчэ 18 чалавек, пакінулі толькі некалькіх вартаўнікоў. Жыхароў гарпасёлка вельмі непакоіць, што ў іх збіраюцца таксама закрыць АЗС, а іх населены пункт не ўключаюць у праграму газіфікацыі, хоць прыродны газ сюды падведзены, а ў газавы кааператыў уступілі 126 жадаючых карыстацца дабротамі цывілізацыі. Таксама ААТ “Маладзечналес” закрыў восенню свой філіял, лесаўчастак у Паставах. Без працы засталіся 35 работнікаў, якім і зарплату, і неабходныя кампенсацыі “забыліся” ў тэрмін выплаціць. Сёлета вясной каля двухсот мясцовых ваенных і вольнанаёмных апынуліся ў няпростай сітуацыі, калі было прынята рашэнне аб ліквідацыі пагранічнай верталётнай часці. Акрамя гэтага яшчэ больш ста чалавек страцілі працу ў раёне, калі з-за АЧС прыйшлося пазбавіцца свіней на буйных свінакомплексах у Камаях і Дунілавічах і на свінаферме ААТ “Навасёлкі-Лучай”.

## Лепельскі раён

# Да сваіх каранёў

■ Станіслаў Раманчук.

**Ад іншых абласцей краіны Віцебшчына адрозніваецца сваёй асабліва маляўнічай прыродай, бо тут найбольшая сетка азёр, лясных масіваў і шматводных рэк.**

Невыпадкова ў Прыдзвінні актыўна развіваецца вясковы турызм, пра гэта засведчылі вынікі V рэгіянальнага конкурсу “Лепшая аграэкасядзіба года Віцебскай вобласці”. Як адзначалася на цырымоніі ў абласным цэнтры, сёлета колькасць тых, хто гатовы прымаць гасцей на ўлонні прыроды, перавысіла паўтысячу, калі зімой было зарэгістравана 449 уладальнікаў такіх сядзіб. Журы агляду-конкурсу няпроста было вызначыць яго пераможцаў, а ў намінацыі “Лепшы старт” уручылі нават дыпломы лепшым. Адну з узнагарод павезла дамоў у Лепельскі раён гаспадыня аграсядзібы “Дзедава спадчына” Таццяна Бекерава. Яна толькі 2 гады займаецца гэтай справай у вясковай хаце, якую перадаў ёй любімы дзед. Раней у маладосці ў вельмі прыгожай лясной вёсцы па суседству з возерам дзяўчынка вельмі любіла праводзіць вольны час летам на канікулах і ўвогуле прыязджаць сюды. Калі родны кут апусцеў, яна вырашыла абавязкова захаваць памяць аб дарагіх людзях, не даць загінуць створанай імі адметнай прыгажосці спрадвечнага сялянскага быту. Дзед Таццяны быў да таго ж выдатным майстрам па дрэву, вырабляў бочкі розных памераў, якія дагэтуль спраўна служаць. Гаспадыня сядзібы зрабіла стаўку на мінулае і не памылілася. Праўда, яна на панадворку ўзвяла вялікую альтанку з печчу, дзе ў прысутнасці турыстаў і гатуюцца на свежым паветры стравы з нацыянальнай кухні, якія ўжо паспелі ацаніць шматлікія госці з розных куткоў Беларусі і Расіі. Дарэчы, сёлета на прыродзе адпачылі ў вобласці амаль 32 тысячы замежных турстаў з 26 краін свету.

# Аб самым надзённым

## НА ФОНЕ СУР’ЁЗНЫХ ЭКАНАМІЧНЫХ ПРАБЛЕМ У БЕЛАРУСІ ВЫРАШЫЛІ РАЗАБРАЦЦА СА СВАІМІ “ЛАЙДАКАМІ”

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Аднак у нас цяпер увага грамадства прыцягнута да іншай праблемы: пачалася кампанія па выяўленні і нават барацьбе з працаздольнымі людзьмі, якія не працуюць афіцыйна. Главы абласцей ужо прызналіся, што на месцах пачалі складаць спісы так званых лайдакоў.**

Ужо лічаныя тыдні засталіся ў нас да заканчэння перадапошняга года чарговай пяцігодкі. Напярэдзе чакае 2015-ы, калі трэба праводзіць па існуючай традыцыі наступны так званы Усебеларускі народны сход напярэдадні значнай палітычнай падзеі – новай прэзідэнцкай выбарчай кампаніі. Аднак усё больш відавочна, што з моманту апошніх выбараў і драматычных затым падзей ля Дома ўрада ў Мінску, не стала меней у Беларусі даўніх і нават застарэлых праблем, цяжкасці ў айчыннай эканоміцы ды і ў паўсядзённым жыцці ўжо стала немагчыма замоўчваць.

Сімптаматычны момант, калі днямі ў сталіцы вышэйшае кіраўніцтва краіны рабіла няпростую справаздачу перад А. Лукашэнкам на працягу амаль 5 гадзін, у той самы дзень у небе над Брэстчынай пацярпеў катастрофу і разбіўся ваенны самалёт МіГ-29. Перад гэтым аналагічнае здарэнне з нашымі авіятарамі было зафіксавана крыху больш месяца назад ужо ў Гродзенскай вобласці. Ды і ўвогуле цяжка штосьці добрае казаць пра абароназдольнасць беларускай арміі, калі за апошніх 5 гадоў Беларусь страціла ўжо 7 баявых самалётаў і 8 лётчыкаў-прафесіяналаў. Паблізу Пастаў пазалетась восенню разбіўся пагранічны новы французскі верталёт з пяццю членамі экіпажа і пасажырамі, праўда, гэту часць сёлета ліквідавалі.

Атрымоўваецца, што наша праслаўтая стабільнасць усё болей дае падстаў сумнявацца, што заўтра праблем і цяжкасцей меней у дзяржавы не стане. Прэзідэнт нават паставіў задачу ўтрымаць хоць бы цяперашні дасягнуты ўзровень жыцця, у якім мы па-ранейшым шмат у чым арыентуемся на савецкае мінулае. Вось і ў пачатку лістапада краіна нібыта адзначыла гістарычнае свята – Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі. Яна, дарэчы, адзіная ў свеце, хто святкуе гэту дату даўніх падзей у Петраградзе. Нават у самой Расіі, дзе і адбыўся гэты бальшавіцкі пераварот, 7 лістапада з’яўляецца звычайным рабочым днём, як гэта было раней і ў нас.

Тады ў беларусаў было іншае дзяржаўнае свята, у пачатку лістапада быў вольным дзень памяці памерлых продкаў –Дзяды і людзі масава ездзілі на месцы вечнага спачыну сваіх родных і блізкіх. Але дзеля невядома чаго зноў увялі гэты “чырвоны” дзень календара, хоць для большасці суайчыннікаў ён з’яўляецца толькі дадатковым выхадным днём, мала хто верыць у светлае будучае і перамогу ідэй марксізму-ленінізму. Добра б было, каб і мы, як і ўсе цывілізаваныя людзі на кантыненце, святкавалі і другі дзень Вялікадня (Пасхі Хрыстовай) у вернікаў праваслаўнай і каталіцкай канфесій.

Аднак у нас цяпер увага грамадства прыцягнута да іншай праблемы: пачалася кампанія па выяўленні і нават барацьбе з працаздольнымі людзьмі, якія не працуюць афіцыйна. Главы абласцей ужо прызналіся, што на месцах пачалі складаць спісы так званых лайдакоў. Абяцаюць з кожным з іх пачаць разбірацца персанальна, папярэджваць, потым штрафаваць, а затым прыняць нават спецыяльны закон, як у савецкім мінулым, па барацьбе з “тунеядством”. Агучылі ўлады лічбу, што за межамі Беларусі працуюць амаль 400 тысяч суайчыннікаў, што складае 7 % ад колькасці працаздольных грамадзян.

Увесь час мы ганарыліся, што беспрацоўе, як непрыемная сацыяльная з’ява, у Беларусі фактычна знікла. І вось тут маем амаль паўмільёна міфічных лайдакоў. Да таго ж спецыялісты прыводзяць іншую лічбу: за межамі краіны занята ўжо прыкладна 1,2 мільёны беларусаў. Нават сын міністра адукацыі РБ заснаваў сваю фірму ў ЗША, за што яго бацька ўдастоіўся публічнай крытыкі на нарадзе ў сталіцы. Нічога добрага не будзе, калі возьмуцца сур’ёзна за такіх здольных і не самых горшых суайчыннікаў. Ды і з самой ідэі вырашыць частку праблем, калі прымусіць працаваць п’яніц, лодыраў, іншых апусціўшыхся людзей, ніякага плёну не будзе.

Такіх нават страшна пускаць працаваць на тую ж ферму, не кажучы ўжо пра завод, Будуць толькі адбываць нумар, красці, піць, а яшчэ могуць устроіць пажар на падпітку ці вывесці са строю абсталяванне, што мы і так бачым з жыцця асобных калектываў глыбінкі. Пакуль жа ў нас толькі стабільна растуць увесь час каторы год цэны, хоць па-папулісцку загадалі не павышаць аўтамабільнае паліва і забыліся пра падаткова-вы манеўры суседняй Расіі з нафтапрадуктамі. А ў беларускай сталіцы ўлады, якія атрымалі новага маладога мэра, прапанавалі ўвесці абавязковае працаўладкаванне па пастанове суда для даўжнікоў па жыллёва-камунальных паслугах і па аліментах. У Мінску таксама хацелі б, каб тэрмін знаходжання на ўліку па беспрацоўі скарацііць у 2 разы з 36 да 18 месяцаў.

Такія прапановы былі накіраваны ў беларускі Саўмін. Яго спецыялістам напрыканцы восені працы прыбавілася, бо да 25 лістапада павінен быць прадстаўлены главе дзяржавы пасля дапрацоўкі канчатковы варыянт задач і інвестыцыйных праграм, прыярытэтаў на будучы год. У аператыўным парадку з-за падзення цэн на нафту прыйдзецца ўслед за Расіяй і ў нас скарэктываваць дзяржаўны бюджэт на 2015 год. У бліжэйшы час стануць вядомыя і далейшыя крокі дзяржавы ў адносінах грамадзян, якія не працуюць, альбо знайшлі прымяненне сваім сілам і здольнасцям за граніцай.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 20.11.14 | | | | Пятніца 21.11.14 | | | | Субота 22.11.14 | | | | Нядзеля 23.11.14 | | | | Пн.24.11. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -1 | -1 | +1 | -1 | -1 | 0 | 0 | -1 | -2 | -2 | 0 | -2 | -3 | -3 | 0 | -3 | -4 | -4 | -2 |
| Ціск | 760 | 760 | 759 | 759 | 759 | 758 | 756 | 756 | 756 | 755 | 755 | 757 | 759 | 761 | 761 | 763 | 764 | 764 | 762 |
| Вільготнасць | 86 | 83 | 80 | 84 | 93 | 96 | 78 | 91 | 94 | 91 | 76 | 90 | 91 | 89 | 68 | 89 | 91 | 87 | 73 |
| Вецер м/сек | 3 У | 4 У | 3 У | 3 У | 2 Пд-У | 3 Пд-У | 3 Пд | 1 Пд-З | 1 Пд-У | 2 Пд-У | 1 Пд-У | 1 Пд-У | 1 Пн-У | 1 Пн-У | 2 Пн-У | 2 Пд-У | 2 Пд-У | 3 Пд-У | 4 Пд |

## Дзень за днём

**Амаль 400 тысяч чалавек аднеслі ўлады ў Беларусі да "тунеядцев" і павысілі дапамогі па догляду за дзіцяці. Падатковыя інспекцыі з 1 студзеня 2015 года пачнуць цікавіцца, на што беларусы трацяць зарплату і для чаго купляюць долары. Прадоўжыўся імклівы абвал расійскай валюты. Дэпутаты прынялі ў І-м чытанні законапраект аб альтэрнатыўнай службе на працягу 30 месяцаў. Заканадаўства аб выбарах у Беларусі змяняць не збіраюцца. Беларуская армія дачакалася падмацавання: да канца года Расія паставіць нам 4 не новыя зенітныя ракетныя комплексы С-300.**

# Важнейшыя навіны свету

**Іспанія.** Урад краіны пацвердзіў, што праведзенае ў Каталоніі фармальнае апытанне за незалежнасць правінцыі не мае ніякіх далейшых юрыдычных наступстваў.

**Бельгія.** Савет ЕС на год – да 31 кастрычніка 2015 года прадоўжыў санкцыі ў адносінах Беларусі з-за наяўнасці палітзняволеных, але іх адмянілі для 24 асоб і 7 прадпрыемстваў.

**Украіна.** Пасля абвастрэння абстаноўкі ў Данбасе глава парламента А. Турчынаў адмовіўся падпісаць Закон аб амністыі "апалчэнцаў", пад Данецкам зноў войскі з Расіі.

**Расія.** Сапраўдную паніку ў бізнэс-колах выклікалі намеры ўладаў увесці з 2015 года для прадпрымальнікаў больш 20-ці відаў муніцыпальных збораў, цэны і так шалёна растуць.

**Францыя.** Прэм'ер-міністр Мануэль Вальс заявіў, што французскія ўлады пакуль не бачаць ніякіх умоў для перадачы Расіі першага верталётаносца класа "Містраль".

**Фінляндыя.** Прэзідэнт Саулі Нііністэ заявіў, што з-за паводзін Расіі свет ушчыльную падышоў да новай "халоднай вайны", якая сур'ёзна пагражае бяспецы чалавецтва.

**Германія.** На ўрачыстасцях з нагоды падзення Берлінскай сцяны канцлер Ангела Меркель вельмі гнеўна асудзіла расійскую цірапію на Украіне, расце напружанасць паміж ЕС і РФ.

**Англія.** Прэм'ер-міністр Дэвід Кемерон выступіў за ўзмацненне санкцый супраць Расіі ў выпадку далейшага абвастрэння сітуацыі на Украіне, Крэмль стаў пагражаць усёй Еўропе.

**Польшча.** З-за напружаных адносін з Масквой кампанія "PKN Orlen" падпісала дагавор аб пастаўках газу з Германіі, закупкі расійскага газу палякі зніжаюць яшчэ на 15 %.

**Казахстан.** Прэзідэнт Нурсултан Назарбаеў выступіў з тэрміновым зваротам і заявіў аб прадчуванні глабальных выпрабаванняў для краіны і свету ў бліжэйшы час.

**Расія.** Эканамісты расійскага "Сбербанка" рэкамендавалі ўраду Беларусі замарудзіць рост зарплат для зніжэння інфляцыйных працэсаў і паляпшэння сітуацыі ў эканоміці.

**Карэя.** Суд краіны пакараў 69-гадовага капітана затанулага са 304 школьнікамі парома "Севол" Лі Чжун Сока 36 гадамі турмы, галоўны інжынер судна сеў на 30 гадоў.

**Англія.** Брытанская паліцыя затрымала чатырох мужчын, узброеных нажамі, якія планавалі напасці на канцэрце ў Лондане на каралеву Елізавету Другую.

**Мексіка.** Жудаснае забойства 43 студэнтаў у горадзе Ігуала выклікала па ўсёй краіне серыю масавых акцый пратэсту, арыштавалі 22 паліцэйскіх, якія стралялі па людзях.

**Польшча.** Старшыня Партыі БНФ Зянон Пазняк заявіў, што прэзідэнцкія выбары-2015 будуць такімі, як і ранейшыя, а адна з галоўных пагроз для РБ – інфармацыйная вайна.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Глава Нацбанка РБ Н. Ермакова заявіла, што дэнамінацыя нацвалюты ў Беларусі адкладваецца з-за высокай інфляцыі, да канца года стаўка рэфінансавання будзе 20 %.

**Бяроза.** Ветслужба Беларусі адмовіла Рассельгаснагляду прыпыніць па іх просьбе сертыфікацыю мясной прадукцыі мясцовага і Слонімскага мясакамбінатаў.

**Мінск.** Дырэктар аднаго з ЗАТ, 38-гадовы вар'ят парэзаў нажом сваю сям'ю, затым на Audi пратараніў яшчэ 5 аўтамабіляў, загінулі 2 чалавекі, муж з жонкай.

**Воранава.** На тэрыторыі раёна зафіксавалі ўспышку трыхінелёзу, у бальніцу змясцілі 16 чалавек, з іх трое дзяцей пасля ўжывання заражанага трыхінеламі мяса.

**Мінск.** Сын знайшоў дома нежывым генерала запасу Валерыя Фралова, які збіраўся ўдзельнічаць у выбарах прэзідэнта і раптоўна памёр на 68-м годзе жыцця.

**Дзяржынск.** Пры затрыманні ноччу двух мужчын-рабаўнікоў у пасёлку Негарэлае міліцыянеры прымянілі зброю і ранілі аднаго з злачынцаў пры аказанні супраціўлення.

**Гродна.** Падатковая служба паведаміла, што ў вобласці па самых сціплых падліках нідзе не працуюць 45-50 тысяч грамадзян, на Брэстчыне колькасць незанятых – 30 тысяч.

**Бабруйск.** Міністр абароны РФ С. Шойгу пацвердзіў, што ў 2015 годзе на мясцовым аэрадроме з'явяцца 12 баявых самалётаў Су-27, 2 вучэбных Су-27 і 4 верталёты Мі-8.

**Барысаў.** Пасля званка 33-гадовага раней судзімага беспрацоўнага жыхара вёскі Лошніца аб нібыта закладзеным ім у мясцовай СШ выбуховым устройстве затрымалі "тэрарыста".

**Рэчыца.** Канцэрн "Белнафтахім" выдзеліў 18 млн. еўра на будаўніцтва на тэрыторыі раёна буйнога свінакомплексу з мясаперапрацоўчым цэхам, яго запусцяць у 2015 годзе.

**Ліда.** Міліцыя затрымала заказаную парачку, 17-гадовага навучэнца ліцэя і 15-гадовую школьніцу, якія скралі ў бацькоў 10 тысяч долараў, каб купіць аўто і пераехаць у Мінск.

**Мінск.** Пасля цяжкай хваробы на 67-м годзе жыцця памёр рэктар прэзідэнцкай Акадэміі кіравання, прафесар, доктар навук Анатоль Маразевіч, ён кіраваў установай з 2007 года.

**Бабруйск.** Да галадоўкі пратэсту звольненых толькі за членства ў свабодным прафсаюзе чатырох высокакваліфікаваных рабочых далучылася супрацоўніца раённай бібліятэкі.

**Баранавічы.** Завядзеннем крымінальнай справы і арыштам закончылася спроба сваяка затрыманага падкупіць за 5 тысяч долараў следчага міжраённага аддзела.

**Барысаў.** Мясцовы ФК БАТЭ датэрмінова, 9-ы год запар выйграў тытул мацнейшага клуба краіны, але на еўрапейскай арэне каманда не можа гуляць на роўных з клубамі эліты

## Доступ да гарачай лініі для пацярпелых ад хатняга гвалту адкрыты для абанентаў усіх мабільных аператараў




■ БЕЛТА

**Доступ да гарачай лініі для пацярпелых ад хатняга гвалту адкрыты для абанентаў усіх мабільных аператараў Беларусі, паведаміла карэспандэнту БЕЛТА спецыяліст па сувязях з грамадскасцю і праграмнай працы праектаў Фонду ААН у галіне народанасельніцтва (ЮНФПА) у Беларусі Паўліна Іванько.**

Цяпер пазваніць на агульнанацыянальную лінію 8-801-100-8-801 можна з нумароў МТС, life :), velcom і з любога стацыянарнага тэлефона. Такім чынам, любы жыхар Беларусі можа атрымаць тэлефонную кансультацыю па праблеме гвалту ў сям'і. Лінію 8-801-100-8-801 можна набраць і знаходзячыся за мяжой, калі да беларускага нумару падлучаны паслугі роўмінгу.

Званок са стацыянарнага тэлефона на гарачую лінію для пацярпелых ад хатняга гвалту бясплатны. Мабільныя аператары спаганяюць аплату па тарыфах званка на гарадскі нумар, устаноўлены для абанента.

Ананімныя кансультацыі па тэлефоне 8-801-100-8-801 аказваюцца штодня з 8.00 да 20.00. Па аўторках і суботах дзяжурыць юрыст, у астатнія дні - псіхолаг. Усе спецыялісты прайшлі спецыяльнае навучанне і могуць аказаць першасную псіхалагічную і юрыдычную дапамогу.

Агульнанацыянальная гарачая лінія для пацярпелых ад хатняга гвалту 8-801-100-8-801 была адкрыта ў жніўні 2012 года і з таго часу прыняла больш за 5300 званкоў. У асноўным звяртаюцца пацярпелыя (83%). Больш за палову званкоў у гэтым годзе паступіла з рэгіёнаў. Пасля таго як у 2013 годзе доступ да лініі адкрыў velcom, значную частку зваротаў складаюць званкі з мабільных.

«Магчымасць патэлефанаваць на гарачую лінію з мабільнага тэлефона важная ў першую чаргу з-за аператыўнасці, напрыклад, калі пацярпелы ад хатняга гвалту чалавек сыходзіць з дому ці не можа скарыстацца гарадскім тэлефонам. Такіх выпадкаў, на жаль, нямала», - адзначыла старшыня праўлення міжнароднага грамадскага аб'яднання «Гендарныя перспектывы» Ірына Альхоўка (на базе МГА якога працуе гарачая лінія).

Як сведчыць аналіз зваротаў на гарачую лінію, у 86% выпадкаў хатняга гвалту ў ролі агрэсара выступае мужчына. Два з пяці агрэсараў знаходзяцца ва ўзросце ад 27 да 40 гадоў. Амаль усе, хто звярнуліся на агульнанацыянальную гарачую лінію, паведамлялі, што падвяргаюцца псіхалагічнаму гвалту, 71% - фізічнае насілле, 51% - эканамічнаму, 5% - сэксуальнаму. «Рэальныя лічбы могуць быць яшчэ вышэй, так як распытваць чалавека ў крызіснай сітуацыі аб тым, што яму давялося перажыць, часам недарэчна, - лічыць намеснік прадстаўніка ЮНФПА Алена Касько. - Задача кансультантаў - аператыўна і прафесійна аказаць першую дапамогу, пры неабходнасці - накіраваць пацярпелых ў бяспечнае месца. Аднак псіхолаг не прымае рашэнні за чалавека, які звярнуўся на лінію, а дапамагае яму знайсці неабходныя ўнутраныя рэсурсы і падтрымку. Калі пацярпелы бок гатовы распачаць дзеянні для змены сітуацыі, яму будзе аказана ўсебаковая дапамога, у тым ліку праз асабістыя кансультацыі і з удзелам дадатковых спецыялістаў».

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Глава вобласці А. Косінец прызнаўся, што на месцах пачалі складаць спісы лайдакоў і папярэдзіў, што з кожным, хто не працуе, будуць разбірацца персанальна.

**Полацк.** За нецэнзурную лаянку ў адносінах затрыманага вадзіцеля, якая трапіла ў Інтэрнэт, не толькі аштрафавалі, але і звольнілі з органаў супрацоўніка мясцовай дзяржаўтаінспекцыі.

**Віцебск.** Пасля маштабнай рэканструкцыі коштам 31 млрд. рублёў адкрыўся тэрапеўтычны корпус гарадской клінічнай бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі.

**Чашнікі.** На старэйшым прадпрыемстве краю папяровай фабрыцы "Чырвоная Зорка" запрацаваў абноўлены цэх па вытворчасці паперы, выпуск прадукцыі вырас у 2 разы.

**Віцебск.** З пачатку года падатковая інспекцыя выявіла ўжо 63 жыхароў вобласці, якія пры малых даходах бударалі элітнае жыллё, альбо набывалі дарагія нерухомасць, аўто.

**Паставы.** З сярэдзіны лета пачаў прастойваць Варапаеўскі дрэваапрацоўчы камбінат, узніклі цяжкасці са збытам вырабленай мэблі, не хапае абаротных сродкаў.

**Наваполацк.** Пасярод ночы моцна п'яны 27-гадовы вадзіцель "Сітраена" на вялікай хуткасці ўрэзаўся ў бетонны слуп і загінуў разам з двума сваймі пасажырамі 24 і 23 гадоў.

**Лепель.** Беларуская арганізацыя таварыства паляўнічых і рыбаловаў за свае сродкі правяла зарыбленне малькамі карася і карпа папулярнае мясцовае возера Варонь.

**Орша.** Экспазіцыя музея Уладзіміра Караткевіча папоўнілася выявай класіка ў выглядзе габелену, яе падаравала ўраджэнка Віцебшчыны, мастачка з Францыі В. Дзёмкіна-Пасо.

**Віцебск.** На вуліцы Суворава ўстанавілі мемарыяльную дошку ў памяць знакамітага айчыннага мастака, мастацтвазнаўцы і педагога Паўла Масленікава (1914 – 1995).

**Глыбокае.** У рамках праекта "Малыя рэкі – вялікія праблемы" вучні Удзелаўскай, Пліскай, Суклінскай, Кіраўскай і Узрэчскай школ правялі ачыстку берагоў возера Вялікае.

**Расоны.** Паблізу мясцовага музея баявой славы ўвекавечылі памяць земляка, расійскага віцэ-адмірала Іларыёна Павалішына, героя Выбаргскай бітвы за выхад у воды Балтыкі.

**Полацк.** На працягу тыдня ў рэгіёне праходзіў чарговы фестываль праваслаўнай культуры "Кладезь", з 2008 года ў ім удзельнічалі прадстаўнікі ўжо з больш 60 гарадоў Беларусі.

**Віцебск.** Ноччу ў выхадныя на адной з вуліц горада перакуліўся легкавы аўтамабіль з пяццю пасажырамі, яны былі паранены, аднаго дэблакіравалі супрацоўнікі МНС.

**Ушачы.** Па суседству з ДЮСШ і мясцовай СШ адкрылі ў рамках праекта "Родная Сторона – детям" сучаснае міні-футбольнае поле са штучным пакрыццём.

*Служба інфармацыі "ВГ".*



■ Людміла Ардынская,
*в. Радзюкі, Шаркоўшчынскі р-н*

# Крывавае поле

## Памяці ахвяраў генацыду ў Шаркоўшчынскім раёне.



**– На гэтым месцы, яшчэ гадоў пяць таму,– кажа Лільяна Карачун, – былі бачныя контуры брацкай магілы, пакуль калгасны трактар не абараў поле.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

У наступным годзе будзе святкавацца 70-годдзе Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне над фашысцкай Германіяй. Вялікі кошт за вызваленне ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў заплаціла Беларусь. Мільёны загінулых на фронце салдатаў, закатаваных, спаленых, расстраляных мірных жыхароў. Частка іх – насельніцтва Шаркоўшчынскага раёна. За час акупацыі фашысты загубілі больш дзвюх тысяч мірных жыхароў. Дваццаць тры вёскі былі спаленыя разам з жыхарамі ў ходзе аперацыі "Нюрнберг". Сярод іх Жураўоўшчына, Куялеўшчына, Стайкі, Строна, Трабаўшчына і іншыя. 263 чалавекі згарэлі зажыва, партызанская зонаператваралася ў пустыню. Выратаваліся адзінкі. 10 спаленых вёсак не аднавіліся. 1480 чалавек былі вывезеныя ў якасці працоўнай сілы для Рэйха, частка знаходзілася ў канцэнтрацыйных лагерах.

Жудасным і бесчалавечным было запланаванае поўнае знішчэнне яўрэйскага насельніцтва – генацыд, ахвярамі якога сталі каля 1600 чалавек Шаркоўшчынскага гета. Да вайны яўрэйскае насельніцтва складала ў мястэчку значны працэнт. Дзейнічалі дзве сінагогі. Яўрэі трымалі крамы, магазіны, карчомкі, былі цырульнікамі, урачамі.

У самым пачатку фашысцкай акупацыі сінагогі ў Шаркоўшчыне былі разрабаваныя і зачыненыя. Выкладчыца Шаркоўшчынскай школы мастацтваў Ала Міхайлава па ўспамінах сведкаў, мясцовых жыхароў, займалася гісторыяй гета. Вось што яна піша: *"Мясцовыя яўрэі былі сагнаныя ў гета, якое знаходзілася на вуліцах Энгельса і Кірава. Немцы цэлы год трымалі іх там, сяліўшы па некалькі сямей у хату. Над вязнямі здзекаваліся, білі, ганялі строем пад вартай на цяжкія работы, рабавалі ў іх каштоўнасці і рэчы, хлеба давалі 100 г у дзень на чалавека.*

*У маі-чэрвені 1942 года пачаліся крывавыя расправы над вязнямі. Іх расстрэльвалі з вінтовак і кулямётаў, кідалі гранаты, палілі тэрыторыю гета гаручай вадкасцю. Дзясяткі людзей згарэлі ў агні жывымі (мужчыны, жанчыны, сталыя людзі і дзеці)".*

12 чэрвеня 1942 года шаркоўшчынскія яўрэі былі расстраляныя на беразе ракі Дзісна (прыкладна 900 чалавек). Мёртвых, параненых скідалі ў адну яму, засыпаючы зямлёй. Па словах сведкаў, зямля варушылася некалькі дзён. У 90-я гады на гэтым месцы ўстаноўлены помнік ахвярам фашызму.

Насельнікі гета, хто застаўся жывы, ведаючы, што іх чакае, пачалі ўцякаць з гета ў розных напрамках, бліжэй да лясоў. Мабыць, пільнасць немцаў на нейкі час аслабла.

Настаўнік У. К. Ляскоўскі, якому ў той час было дзесяць гадоў, успамінае, як бацька знайшоў схаваўшыхся ў сушні (сушылі лён, снапы жыта) каля дзясятка яўрэяў. Маці насіла ім есці, але заставацца на хутары было небяспечна, людзі сышлі невядома куды. Выжывалі адзінкі.

Летам 1942 года частка яўрэяў ажыццявіла ўцёкі ў бок Радзюкоў (з цяперашняй вуліцы Кірава, дзе было гета, зручней уцякаць – менавіта ў гэтым напрамку). Раскіданыя па полю хутары, чатыры кіламетры, і – лес. Дабраліся да вёскі Малонка Масарская. Побач – цяперашнія Радзюкі, якія аддзяляе ад месца трагедыі рачулка Гнілуха, што непадалёк злучаецца з ракой Бярозаўкай.

Непасрэднымі сведкамі жудаснай трагедыі сталі жыхары хутара Малонка, які быў бліжэй за астатнія, амаль ля самай дарогі, што ішла з Глыбокага на Шаркоўшчыну.




**– Старая дарога, якую я памятаю, праходзіла там,– паказвае Лільяна Карачун. Паводле ўспамінаў яе маці – перад мастом праз рэчку Гнілуху, на пагорку, немцы паставілі кулямёт і пачалі расстрэльваць уцекачоў з Шаркоўшчынскага гета.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

Паводле ўспамінаў сваёй маці Анастасіі Носкі і роднай цёткі Караліны Кляноўскай – распавядае жыхарка а\г Радзюкі, ураджэнка хутара Малонка, Лільяна Іосіфаваўна Карачун.

*"Бацькоўская хата на нашым хутары была вялікая, на два канцы. У адным жыла сям'я майго бацькі ЮзафаНоскі, у якой да вайны было пяцёра малалетніх дзяцей, ён пайшоў на фронт, калі самаму маленькаму было дзевяць месяцаў. У другім канцы хаты жылі тры сястры Юзафа і маці. Уся цяжкая праца па гаспадарцы лягла на плечы жанчын. Сеялі, касілі, жалі, каб не памерці з голаду. У гэты летні дзень сям'я займалася хатнімі справамі.*

*– Раптам маці,–* расказвае Лільяна Іосіфаваўна, *убегла ў хату: "Немцы з-пад Глыбокага едуць. Дзеткі, хавайцеся хутчэй у яму пад падлогай (тут захоўвалі бульбу)".* Вокны нашай хаты выходзілі ў бок Радзюкоў. З акон цёткі Караліны была бачная Шаркоўшчына, і яна разгледзела, што ў бок хутара рухаюцца людзі. *"Яўрэі з гета",* – здагадалася цётка. *– Настасся, што цяпер будзе?* Усе родныя сабраліся разам. Між тым, немцы спынілі тэхніку, на ўзгорку ўстанавілі кулямёт і пачалі чэргамі касіць безабаронных людзей. Чуліся енкі, крыкі. У хату пасыпалася шкло з шыбаў. Пасля таго, як усё скончылася, немцы пайшлі аглядаць свірны, гумны, хлявы на хутары. Каго знаходзілі – расстрэльвалі на месцы. Цётка Караліна асмялела і з-за вушака глянула ў акно. Яна ўбачыла ў палосцы жыта маладую жанчыну, русавалосую, з маленькай дзяўчынкай 4-5 гадоў. Але што яна магла зрабіць? Схаваць няшчасных не было магчымасці. Між тым, немцы вярталіся пасля агляду гаспадарчых пабудоў. Адзін з аўтаматам у руках пайшоў аглядаць жыта. *"Юдэ, юдэ!",–* крычаў ён, штурхаючы жанчыну. *"Я – полька",* – спрабавала даказваць жанчына, прытуліўшы да сябе дзяўчынку. Немец выстраліў, жанчына ўпала адразу, у дзяўчынку страляў аж пяць разоў, пакуль яна перастала паказваць прыкметы жыцця.

Потым немцы загадалі гаспадарам, у каго былі коні, звозіць трупы да ямы. *"Маці казала,* – прадаўжае Лільяна Іосіфаваўна,– *што гэта быў вялікі квадрат. Сагналі жыхароў хутароў капаць магілу расстраляным. Цётка Караліна таксама была прымушаная капаць яму і закопваць ахвяры".*

Магільны пагорак хутка зарос травой, дзікай і сухой. Калі дзеці пасвілі кароў, знаходзілі ў полі гільзы ад куль. Маці сварылася: *"Гэта вам не цацкі! І кароў не ганіце блізка да магілак, каб не стапталі, там жа людзі пахаваныя".*

Аб пахаванні яўрэяў ведалі ўсе мясцовыя жыхары. Спачатку было не да гэтага, паўставалі з галечы, з ваеннага разбурэння. Потым быў час, калі людзі баяліся пра гэта гаварыць. Адным словам, так і не дайшла справа да таго, каб зрабіць агароджу, усталяваць просты памятны знак.

Прайшло шмат часу, але ўсё ж ёсць людзі, у якіх памяць сэрца гаворыць, не маўчыць.

Аднойчы мне патэлефанавала старэйшая жыхарка а\г Радзюкі, грамадская актывістка, самадзейная паэтка Ларыса Іванаўна Шпак і пераказала аповед аб яўрэйскай трагедыі Караліны Кляноўскай, роднай цёткі нашай апавядальніцы Лільяны Іосіфаваўны Карачун.

Закрануць гэтую тэму, прыцягнуць да яе сродкі масавай інфармацыі – ініцыятыва гэтай жанчыны.

Крыху забягаючы наперад, трэба сказаць, што рэспубліканскае яўрэйскае аб'яднанне, якое займаецца ўшанаваннем памяці ахвяр Халакосту, абяцае дапамагчы, трэба вырашыць фармальнасці з мясцовымі ўладамі.

Хацелася б, каб не былі галаслоўнымі словы з "Рэквіема" Роберта Раждзественскага: "Ніхто не забыты, нішто не забыта". Не трэба забываць і аб папярэджанні Юліуса Фучыка: "Людзі, будзьце пільнымі!", каб крывавыя трагедыі больш не паўтараліся на нашай зямлі.

# Нашы міліцыянты па самаабароне – на вышыні!




**14 лістапада прайшоў чэмпіянат УУС Віцебскага аблвыканкама па самаабароне, у якім чынны ўдзел браў Глыбоцкі РАУС, дзе па выніках спаборніцтва сярод РАУСаў вобласці заняў ганаровае 2-е месца.**

У асабістым заліку ў вагавай катэгорыі да 90 кг – 3-е месца заняў Міхаіл Цынковіч, маёр, старэйшы інспектар ДПС; 3-е месца ў катэгорыі да 74 кг – Сяргей Цырбан, ст. лейтэнант; 4-е месца – Павел Рабікаў, ст. лейтэнант, оперупаўнаважаны крымінальгага вышуку.

Нагадаем, у Віцебскай вобласці – 21 сельскі раён, а таксама 3 гарадскія раёны ў Віцебску.

*Ул. Скрабатун.*

**На здымку: Міхаіл Цынковіч, маёр, старэйшы інспектар ДПС з уласнымі ўзнагародамі і ўзнагародамі, якія заваяваў Глыбоцкі РАУС.**

**Створанае беларускімі распрацоўшчыкамі сумесна з ДАІ Мінска дастасаванне CarNet за суткі запампавалі і ўсталявалі больш за 2 тыс. карыстальнікаў, паведаміла кіраўнік прэс-службы ДАІ ГУУС Мінгарвыканкама Таццяна Харлінская. Паводле яе слоў, гэта дастаткова высокі вынік, які сведчыць пра цікавасць да дадатку з боку беларускіх кіроўцаў.**

# Створанае з ДАІ Мінска дастасаванне за суткі спампавалі больш за 2 тыс. карыстальнікаў

Паводле слоў Таццяны Харлінскай, распрацоўшчыкі дастасавання адзначылі невялікія збоі з рассыланнем кода рэгістрацыі з дапамогай СМС з-за працы сотавых аператараў, перадае БелТА. На дадзены момант усе праблемы ліквідаваныя.

Як паведамляў Тэлеграф, з 10 лістапада беларускія аўтамабілісты могуць камунікаваць праз новую сацыяльную сетку для аўтамабілістаў - **CarNet.** З дапамогай дастасавання цяпер уладальнік смартфона можа паведаміць аб дарожных праблемах, парушэннях ПДР ці пасладу паведамленне гаспадару аўтамабіля, які зарэгістраваны ў дастасаванні.



**Кліменцій Кожан**, краязнаўца, выпускнік Глыбоцкай педвучэльні.
*м. Германавічы.*

# Рэч Паспалітая абодвух народаў

## Да 445-годдзя Люблінскай уніі



**Герб Рэчы Паспалітай абодвух народаў.**



**«Люблінская унія», Ян Матэйка, 1569 г.**

### 1. Становішча літоўскіх (беларускіх) зямель у XVI ст.

У сярэдзіне XVI ст. на землях Літвы (Беларусі), якія падзяляліся на ваяводствы і паветы, пражывала каля 2 мільёнаў чалавек. Большасць з іх у XVI ст. называлі сябе рускімі людзьмі, русінамі. На рубяжы XVI-XVII стст. насельніцтва ўсходняй Літвы (Беларусі) называла сябе беларусамі. Насельніцтва заходніх зямель Літвы (Беларусі) называла сябе ліцвінамі. Жыхары беларускага Палесся называлі сябе палешукамі. Суседнія народы ўсё насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага (ВКЛ) называлі ліцвінамі. Так называлі сябе самі жыхары ВКЛ, калі знаходзіліся за мяжой.

Дзяржаўны лад ВКЛ у XVI ст. вызначаецца як саслоўна-прадстаўнічая манархія, дзе ўлада вялікага князя была абмежавана радай і соймам. У склад рады ўваходзілі паны – найбуйнейшыя землеўласнікі, якія займалі вышэйшыя пасады ў дзяржаўным кіраванні. У сойме, акрамя паноў і шматлікіх службовых асоб, была прадстаўлена ўся шляхта ВКЛ.

Калі ў XIV-першай палове XV ст. знешняя небяспека для ВКЛ зыходзіла з боку крыжацкага ордэна, то з другой паловы XV ст. пачынаецца зацяжная ваенна-палітычная барацьба ВКЛ з Маскоўскай дзяржавай. Значна пагоршыла знешнепалітычнае становішча ВКЛ 25-гадовая Лівонская вайна (1558-1583), якую вёў за выхад да Балтыйскага мора маскоўскі цар Іван IV Грозны (Жахлівы). Ён лічыў ліцвінскія (беларускія) землі сваёй вотчынай і імкнуўся вярнуць іх у склад Маскоўскай дзяржавы. Выхад да Балтыйскага мора закрывалі Польшча, ВКЛ, Лівонія - аб'яднанне княстваў, што былі заснаваны крыжакамі і рыцарамі Лівонскага ордэна на прыбалтыйскіх землях. Вайна вымусіла ісці на заключэнне дзяржаўнай уніі (саюза) ВКЛ з Польшчай у мэтах абароны і вызвалення зямель, захопленых маскоўскімі войскамі.

З поўдня небяспеку стваралі крымскія татары, якім ВКЛ у першай палове XVI ст. сплачвала ардыншчыну – падатак, каб адкупіцца ад іх набегаў. Аднак, нягледзячы на гэта, ліцвінскія (беларускія) землі штогод цярпелі ад татарскага гвалту. Буйное паражэнне нанёс татарам найвышэйшы гетман (галоўнакамандуючы войскамі ВКЛ) Канстанцін Астрожскі. Паступова з 30-х гадоў XVI ст. татарскія напады на ВКЛ сталі больш рэдкімі. Галоўнай знешнепалітычнай праблемай для ВКЛ заставаліся адносіны з Маскоўскай дзяржавай.

Пачатак XVI ст. быў адзначаны ў ВКЛ выступленнем князя Міхаіла Глінскага супраць вярхоўнай улады. Дарадца вялікага князя Літоўскага Аляксандра (1461-1506) князь Міхаіл Глінскі, страціўшы пасля смерці вялікага князя становішча першай асобы ў дзяржаве, падняў у 1508 годзе мяцеж. Ён выкарыстаў падтрымку з боку маскоўскага князя Васілія III. Пасля гэтага выступлення вялікакняжацкі ўрад ВКЛ зразумеў, што ва ўмовах пастаяннага саперніцтва з Маскоўскай дзяржавай, якая выкарыстоўвала незадавальненне праваслаўных феадалаў, трэба шукаць шляхі прыцягнення іх на свой бок.

Вялікая заслуга ва ўсталяванні сацыяльна-эканамічнай роўнасці шляхецкага саслоўя незалежна ад рэлігійнай прыналежнасці і этнічнага паходжання належала вялікаму князю літоўскаму і каралю польскаму Жыгімонту I Старому (1506-1548).

Пры вялікім князю літоўскім і каралю польскім Жыгімонце II Аўгусце (1548-1572) усталяваліся раўнапраўныя адносіны і верацярпімасць (талерантнасць) паміж феадаламі рознага веравызнання. Напрыклад, быў адменены параграф Гарадзельскай уніі 1413 года, які аддаваў перавагу пры занятцы дзяржаўных пасад феадалам-католікам.

У XVI ст. у ВКЛ паўсталі новыя супярэчнасці – паміж магнатамі (найбагацейшымі феадаламі), у руках якіх сканцэнтравалася неабмежаваная ўлада, і шматлікай шляхтай (дробнымі і сярэднімі феадаламі), да голасу якіх на пасяджэннях сойма ВКЛ ніхто не прыслухоўваўся. Такога не было ў суседняй Польшчы, дзе шляхецкія правы (вольнасці) дазвалялі шляхце актыўна ўдзельнічаць у палітыцы. Шляхта ВКЛ, якую прывабвалі польскія шляхецкія вольнасці, дамагалася заключэння уніі (саюзу) з Польшчай, каб заняць такое ж становішча ў дзяржаве.

### 2. Утварэнне Рэчы Паспалітай.

Польская шляхта і магнаты імкнуліся ўключыць ВКЛ у склад сваёй дзяржавы, падпарадкаваць ВКЛ у якасці багатага прыдатка да Польшчы і атрымаць для сябе новыя землі і пасады. Была нават прапанова замяніць назву "Літва" на назву "Новая Польшча". Кіраўніцтва каталіцкай царквы разлічвала праз саюз Польшчы з ВКЛ пашырыць уплыў каталіцызму на ўсход – на беларускія, украінскія і рускія землі.

Кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт II Аўгуст хацеў замацаваць саюз Польшчы і ВКЛ. Ён баяўся, што абедзве дзяржавы пасля яго смерці разарвуць унію. Шляхта літоўскіх (беларускіх) паветаў на палявым сойме пад Віцебскам прыняла 13 верасня 1562 года і накіравала вялікаму князю ў Вільню акт з просьбай заключыць унію з Польшчай, каб мець агульныя соймы, выбіраць адзінага караля, разам абараняцца ад ворага і мець аднолькавыя правы з польскай шляхтай. Удзельнікі сойма накіравалі ліст і жамойцкай шляхце, каб яна далучылася да акта. Аднак магнаты на чале з віленскім ваяводам і канцлерам ВКЛ Мікалаем Радзівілам Чорным выступілі супраць. Пасля пытанне аб уніі разглядаў Віленскі сойм 1563 года, на якім былі выбраныя дэлегаты для перамоў з польскім каралеўствам. Але магнаты пагадзіліся на гэта пры ўмове шырокай самастойнасці ВКЛ. Перамовы працягваліся некалькі гадоў. 10 студзеня 1569 года пачаў шасцімесячную працу Люблінскі сойм па стварэнні саюза дзвюх дзяржаў. Першапачаткова магнаты абедзвюх дзяржаў засядалі асобна, у выніку чаго бок ВКЛ выступіў супраць больш цеснай уніі з Польшчай, прапануючы абарончы саюз. Польскія дэпутаты звярнуліся да караля, каб дабіцца агульнага пасяджэння дэпутатаў. Аднак у канцы лютага, не згаджаючыся з прапановай цеснай уніі з Польшчай, большасць дэпутатаў ВКЛ выехала з Любліна. Пасля гэтага польскія сенатары паставілі перад каралём пытанне аб далучэнні Падляшша і Валыні да Польшчы, спасылаючыся на тое, што мясцовая шляхта была не супраць, спадзеючыся на пашырэнне сваіх правоў і прывілеяў. 15 сакавіка 1569 года кароль выдаў акт аб далучэнні Падляшша, а 26 красавіка 1569 года – акт аб далучэнні Валынскага ваяводства да Польшчы. Паны – рада ВКЛ выказалі пратэст, аднак большасць шляхты іх не падтрымала. Дэпутатам ВКЛ быў устаноўлены тэрмін, каб яны вярнуліся ў Люблін. Пры гэтым некаторыя магнаты былі пазбаўлены каралём сваіх пасад і месцаў у Радзе ВКЛ. 10 мая 1569 года Жыгімонт II Аўгуст склікаў соймікі ВКЛ, дзе шляхта дала згоду на падпісанне уніі. Дэпутаты Кіеўскага ваяводства, якое падвяргалася нападам крымскіх татар, таксама далі згоду на далучэнне, і 5 чэрвеня 1569 года Кіеўскае ваяводства было інкарпараванае ў склад Польшчы. Толькі шляхта Мазырскага павета не згадзілася на гэта. Павет быў далучаны да Менскага ваяводства. 1 чэрвеня 1569 года ў склад Польшчы ўвайшло Падолле. ВКЛ зменшылася да этнічнай літоўскай (беларускай) і жамойцкай тэрыторыі. Канчатковы акт Люблінскай уніі пасля новага абмеркавання быў зацверджаны соймам 1 ліпеня 1569 года. Кароль падпісаў акт 4 ліпеня. 11 жніўня 1569 года быў выдадзены дадатковы акт, паводле якога вызначаўся склад сената аб'яднанай дзяржавы і парадак месцаў у ім.

ВКЛ вымушана было прыняць многія з польскіх умоў аб'яднання дзвюх дзяржаў. Умовы аб'яднання былі наступныя. Вышэйшым органам улады станавіўся агульны сойм – вышэйшы шляхецкі саслоўна-прадстаўнічы орган улады, які мог збірацца толькі на тэрыторыі Польшчы. Асобных соймаў для Польшчы і для ВКЛ не прадугледжвалася. Кіраўнік саюза дзяржаў, якога маглі выбіраць феадалы Польшчы і ВКЛ, таксама быў агульным і абвяшчаўся каралём Польшчы і вялікім князем літоўскім. Саюзам дзяржаў у першыя гады пасля люблінскай уніі кіравалі: Жыгімонт II Аўгуст у 1548-1572гг, які быў апошнім прадстаўніком дынастыі Ягелонаў. Ён таемна ў 1547 годзе ажаніўся на прадстаўніцы аднаго з магнацкіх родаў у ВКЛ Барбары Радзівіл, якая стала польскай каралевай. У час яго праўлення быў уведзены Статут ВКЛ 1544 года, заключана Люблінская унія 1569 года.

Кароль Стэфан Баторый – адзін з самых моцных і дзейсных каралёў Рэчы Паспалітай у 1576-1586гг. З 1576 года абвешчаны вялікім князем літоўскім, пасля таго, як прызнаў раўнапраўнасць Польшчы і ВКЛускладзефедэратыўнай дзяржавы Рэч Паспалітая і абавязаўся захоўваць самастойнасць ВКЛ. Вядомы як выдатны палкаводзец у гады Лівонскай вайны. Пры ім быў адваяваны Полацк. Рэзідэнцыяй Баторыя стаў горад Гародня (Гродна), дзе для яго патрэб быў перабудаваны замак, а сам кароль бавіў час за сваім любімым заняткам – на паляванні.

Асобнымі ў Польшчы і ВКЛ захоўваліся: адміністрацыйны апарат (дзяржаўныя пасады); заканадаўства (у ВКЛ яно было прадстаўлена Статутам 1588 года); судовая арганізацыя (вышэйшым судовым органам у ВКЛ з'яўляўся з 1581 года Галоўны трыбунал); войска (яго асновай у XVIст. У ВКЛ з'яўлялася паспалітае рушэнне – усеагульнае апалчэнне, што складалася са шляхты і жаўнераў – ваеннаабавязаных мужчын, якіх выстаўлялі са сваіх зямельных уладанняў кожны шляхціч); тытул (захоўваліся афіцыйныя назвы дзяржаў пры існаванні агульнай назвы Рэч Паспалітая); пячатка з сімвалам дзяржавы (у ВКЛ – выявы "Пагоня", у Польшчы – выявы "Арла"); мова афіцыйнага справаводства (старабеларуская ў ВКЛ, лацінская і польская – у Польшчы).

***Заканчэнне ў наступным нумары.***




**Гімназія імя Люблінскай уніі ў Глыбокім, 1930-я гг. Пазней СШ №1. Разбураная пры пабудове новага будынка СШ №1.**

